# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

№5

ВОРГАН СТУДЭНТАЎ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК

САКАВІК 1989 г.

Перад вамі чарговы нумар "Студэнцкае Думкі", падрыхтаваны супольнымі намаганьнямі сяброў двух студэнцкіх згуртаваньняў: "Сьвітанак"/Тэхналягічны інстытут/ і "Крывічоў"/Педагагічны інстытут/. І гэта не выпадковасьць. Рэдакцыя мае намер і надалей далучаць да справы ўсіх актыўных і зацікаўленых асобаў.

Гэтак сябры студэнцкага згуртаваньня "Агмень", што з мастацкай вучэльні, ласкава згадзіліся спрычыніцца да падрыхтоўкі наступных нумароў нашае часопісі. Апрача таго,рэдакцыя атрымлівае багатую пошту. Гэта,безумоўна,сьведчыць, што ў працэс тварэньня нашае часопісі ўключаюцца шырокія студэнцкія колы. Гэта нас цешыць і надае нам творчых сілаў. Адным словам, ўжо сёньня мы абвяшчаем нашую часопісь ворганам нацыянальна-сьвядомага беларускага студэнцтва,гэта азначае ворганам студэнцтва Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак. Марым пра пашырэньне кола чытачоў. "Студэнцкая Думка" мусіць быць ворганам усяго прагрэсіўнага студэнцтва Беларусі. Дамагчыся гэтага наша агульная мэта.

## МАНІФЭСТ РЭДАКЦЫІ

Братове!

Чалавек усю сваю гісторыю імкнуўся да сьвятла, радасьці і шчасьця.Розум Чалавека ляцеў далёка наперад, адкрываючы дзівосныя таямніцы, спасьцігаючы непахісныя законы і сэнс чалавечага існаваньня, сутыкаючыся зь цемрашальствам, ваяўнічым невуцтвам.

Уся наша гісторыя стаіць на людской крыві. Сілы зла заўжды дамагаліся таго, каб зьнішчыць яркую праўдзівую думку ды падмяніць яе сутнасьць цынічнай хлусьнёю, каб заблытаць усё, утварыць хаос ды пасьля сказаць: вось вам вынікі вашых імкненьняў! Замест шчырых пачуцьцяў насаджаюцца сурагаты, замест сапраўдных каштоўнасьцяў — уяўныя.

Але Чалавечы Досьвед невычэрпна багаты ды разнастайны. Дакрануцца да яго, узбагаціць свой розум праз гэта ня толькі неабходнасьць, але і найвялікшая асалода. Гэтыя старонкі — наш роздум пра Бацькаўшчыну і Волю, Жыцьцё і Сумленьне, каштоўнасьці сапраўдныя і каштоўнасьці ілжывыя, пра шлях да шчасьця і твань нерухомую дрыгвы. На гэтых старонках мы імкнемся зьмяшчаць цікавыя матэрыялы культуралягічнага ды грамадскага характару, студэнцкія дасьледваньні, кроніку, падзеі, абвесткі.

Мы запрашаем вас, сябры, рабіць гэта разам.

# ПЫТАНЬНЕ ГАМЛЕТА ЦІ

# ВЕСТКІ З ПЕДІНСТЫТУТУ

Так... Сёньня такая пастаноўка пытаньня не зьяўляецца ні празьмернай драматызацыяй, ні, як кажуць, згушчэньнем фарбаў. Перад беларускім народам ёсьць два шляхі: альбо зьнікнуць як народ, альбо збудаваць здаровую дзяржаву і здаровае грамадства. Аднак дужа моцна трымаецца ў сьвядомасьці беларусаў стэрэатыпнае спадзяваньне на рэформы зьверху. Маўляў, дадуць новы закон, і... Ага, чакай, баба, Пятра, сыру зьясі. Я думаю, нікога не зьдзіўлю, калі скажу, што па ўзроўні жыцьця мы ў тры разы адсталі ад разьвітых краін сьвету, а вышэйшая адукацыя зьяўляецца вышэйшай толькі ў межах СССР. Ды ўжо ж, мабыць, не таму, што слабыя ў нас завіліны ад прыроды, а таму, што так вучымся і нас так вучаць. Выгадна вырошчваць манкуртаў ды трымаць краіну ў наркатычным стане. Так было дзесяцігодзьдзі, калі не сказаць стагодзьдзі. Ды як ні круці, як ні хітруй, але праз тоўшчу гадоў праб'іваецца вечнае пытаньне: каму гэта выгадна? Сапраўды, каму? Дальбог, цікава! Варта падумаць на самоце.

Наш ардананосны інстытут выпускае ў людзі педагагічныя кадры сотнямі. Але сёньня і кожны студэнт, і кожны выкладчык разумеюць, што мы выходзім закамплексаванымі паўфабрыкатамі на пакуты школе і сабе. Як кажуць, ні богу сьвечка ні чорту качарга. Правучыўшыся пяць гадоў, мы трохі чулі, але добра ня ведаем пра слоўнікі І.Насовіча, М.Гарэцкага, "Граматыку" Б.Тарашкевіча, "Слоўнікі тэрміналёгічных камісіяў", "Гісторыю крыўскай кнігі" і слоўнік Ластоўскага мовазнаўчыя працы Я.Лёсіка, "Гісторыю і хрэстаматыю беларускай літаратуры" М.Гарэцкага, чытанкі Цёткі, Л.Гарэцкай, лемантары... А гэта ня толькі парыяд у гісторыі, але і новыя веды. Ды што гаварыць, мы і не імкнёмся ведаць, і ня знаем, да чаго зьвярнуцца ў патрэбе, нібы кніжны скарб не для нас пісаны. Ня дзіва, што да апошняга курса такія педагогі развучыліся гаварыць па-беларуску і лічаць сябе "інцелягентамі". Сьвядома беларускаю моваю на факультэце /змаўчым сарамліва пра інстытут/ карыстаюцца адзінкі, хаця ўвесь факультэт "секае" і "цекае". У дадатак да сукведьця мы не патрыёты Бацькаўшчыны, роднае мовы. Само слова "патрыёт" між намі абясцэнена і ня мае сапраўднага свайго значэньня. Зразумела, такога настаўніка, асабліва сёньня, у парыяд заняпаду роднае мовы і культуры, пушчаць да школы нельга. Ні ў кога няма сумненьня, што з такімі кадрамі справа беларусізацыі, за якую змагаюцца цяпер усе перадавыя людзі грамадства, зь месца ня зрушыцца. Ня дзіва, што пасьля нашых урокаў дзеці ня толькі ня любяць беларускае мовы і не разумеюць літаратуры, а хочуць найхутчэй стаць і становяцца "ісьціна рускімі людзьмі" накшталт героя Зноска з п'есы Я.Купалы "Тутэйшыя".

Гэта ня столькі наша віна, колькі бяда, ды ня столькі наша, колькі ўсяго нашага народа. Урбанізацыя, акрамя ўсяго, заціскае і нівэлюе думку, прымітывізуе фантазію, кожны прытулак стамлёнага позірку загрувашчаны ілжывымі лозунгамі. Але найгорш тое, што гарадзкая вірлівая мітусьня прымаецца за норму інталігентскага ладу жыцьця. Беларускай вёсцы ёсьць чым ганарыцца: багата талентаў падаравала яна Радзіме і сьвету. Прагрэсіўная беларуская інтэлігенцыя шмат спадзяецца на прыток вясковае моладзі ў беларускую культуру як на крынічны струмень. Але атрымліваецца, што агняцьветная моладзь на дзіва лёгка гатовая адрачыся ад мовы, сьветапогляду свайго на карысьць кан'юнктурных гарадскіх стэрэатыпаў. Чаму я павінен саромецца свайго вымаўленьня, таго, што вясковец? Перад кім і ў чым мы вінаватыя? Я не кажу пра культуру, але ж дзе наша Годнасьць?!

Ганна Барвенава.

---

Я сэрца ўздым, жыцьцё сваё і вернасьць
І ўсё, чым толькі мерыцца любоў,
Аддам табе, каханая бязьмерна,
Пакутная зямля маіх дзядоў!

Ларыса Геніюш

# ХАРАКТАРЫСТЫКА МОЎНАЕ РЭФОРМЫ 1933 ГОДА

"Мовы нацыянальных меншасьцяў у пэўных умовах могуць быць выкарыстаныя супроць іх саміх... як сродак абясцэніць мову нацыянальнае меншасьці, прымусіць грамаду адмовіцца ад яе. Больш таго, мовы нацыянальных меншасьцяў магчыма мяняць. Таму артаграфія, лексыка, граматыка і нават фаналёгія моваў нацыянальных меншасьцяў нярэдка вымушана набываць чужыя для грамады, нават адкіданыя ёю характарыстыкі..."
"Перспективы. Вопросы образования",№I, 1985. ЮНЕСКО - издательство "Прогресс". Москва, сс. 53-54.

Бурлівае разьвіцьцё беларускае літаратурнае мовы ў 10-20-я гг. XX ст. паказала, што граматыка Бранiслава Тарашкевіча /перш. выд. - у 1918 г./ наогул слушна апісвае мову, Тарашкевічава артаграфія ж патрабуе толькі нявялічкага ўдасканаленьня. Таму яшчэ падчас "беларусізацыі", калі выконваліся рашэньні XX зьезда ВКП/б/ пра разьвіцьцё нацыянальных культураў, Інстытут Беларускае культуры склікаў у Менску Першую Акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і азбукі /гл."Працы" Канфэрэнцыі, Менск, 1927г./. Канфэрэнцыя фактычна стала міжнароднаю, бо ў ёй узялі ўдзел аўтарытэтныя вучоныя з Масквы /Растаргуеў/, Польшчы /Галомбак/,Нямеччыны /сусьветна вядомы лінгвіст Макс Фасмэр/, Латвіі /Блесэ і сам Райніс/ і інш. Канфэрэнцыя прапанавала пашырыць прынцып аканьня на чужаземныя словы, увесьці асобныя літары для характэрных беларускіх зычных гукаў дз, дж, а таксама шэраг іншых зьменаў.

З пачаткам 30-х гадоў рэзка зьмяніліся адносіны да беларускае культуры і ейных дзеячоў у БССР. Пачаліся цкаваньні, даносы, ссылкі, растрэлы, ахвярамі якіх сталі аўтарытэтныя беларускія мовазнаўцы: Бузук, Лёсік,Тарашкевіч, Ластоўскі, Вялькевіч і шматлікія іншыя. У гэтай атмасфэры, без навуковах дыскусіяў, пад чыста палітычнымі лёзунгамі пра "шкодніцтва нацыянал-дэмакратаў" /так называлі дзеячоў беларускае культуры/ у галіне мовы была праведзеная рэформа мовы /ня правапісу!/, якая мела вельмі аддаленае дачыненьне да прапанаванай вучонымі ў 1926 годзе лініі.

Вядома, увядзеньне ў артаграфію пэўных пунктаў з прапанаваных у 1926 годзе было станоўчым актам. Гэта — пашырэньне аканьня на запазычаньні /канфэрэнцыя, праект/, але чамусьці за выключэньнем г.зв."інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных словаў", на якія *аканьне не распаўсюджвалася* /комунізм, соцыялізм і пад./; уніфікацыя напісаньня е ў другім складзе перад націскам. Але зьмены парушалі фанетычны прынцып беларускае артаграфіі ў імя набліжэньня графічнага аблічча словаў да рускага. У сёняшняй лінгвістыцы неаспрэчная тэза пра тое, што павелічэньне ролі пісанага слова вядзе да ўплыву артаграфіі на вымаўленьне. Таму самая недарэчная рэформа, плён якое мы вымушаны зьбіраць зараз,— гэта скасаваньне паказу асыміляты ўнага зьмякчэньня зычных: сьнег-снег, дзьверы-дзверы і пад. Капеечныя фінансавыя выгады ад "эканоміі месца"— нішто ў параўнаньні са стратаю ў вуснах дыктараў, настаўнікаў, наогул гарадскіх беларусаў гэтай адной з найхарактэрнейшыхрысаў беларускага вымаўленьня.Пра неабходнасьць вяртаньня мяккага знаку ў гэтай пазыцыі ў часы застою пісалі Я.Скрыган, М.Лужанін, А.Яскевіч, ужо ў наш час "ЛіМ" надрукаваў пару артыкулаў пра асыміляваны Ь.

"Р-рэвалюцыянэры" ад артаграфіі параўноўвалі скасаваньне ь са зьнішчэньнем канцавога ъ у рускім правапісе. Але ж ъ не абазначаў нічога, апроч канца слова, у той час як беларускі ь меў заданьне зусім канкрэтнае— паказаць мяккасьць у пэўнай пазыцыі: сьпіць, але сплю, скінуць /перад групамі зычных зь першым б,п, а таксама перад г,к,х зьмякчэньня не адбываецца/. Цяпер усе гэтыя словы пішуцца бязь мяккага знака, і, каб вызначыць, цьвёрда ці мякка вымаўляць с, трэба зазірнуць на некалькі літараў наперад і па

глядзець, які галосны у гэтым складзе — е, і ці о, а — і якія спалучэньні зычных папярэднічаюць галоснаму... Па сутнасьці, штучна створаныя тыя ж цяжкасьці артаграфіі, на якія справядліва наракаюць у ангельскай ці францускай мове /але там гэтыя цяжкасьці, прынамсі, узьніклі гістарычна./

Памылкова сталі вымаўляць прыметнікі з суфіксам -ск- тыпу чэскі, рыскі, сураскі. Прычына — яны сталі пісацца чэшскі, рыжскі, суражскі. Можна назваць яшчэ некалькі недарэчных артаграфічных зьменаў. Але ўсе астатнія артыкулы рэформы 1933г. да артаграфіі дачыненьня не маюць, яны рэглямэнтуюць граматыку і артаэпію. Так, былі ўнесеныя дэкрэтыўныя зьмены ў вымаўленьне запазычаных словаў. Беларуская мова, здаўна будучы ў непасрэдным кантакце з моваю лацінскай /праз выкладаньне апошняй ў школах старой Беларусі/ распрацавала ўласную сыстэму гукавога асваеньня запазычаных з лаціны /і іншых эўрапейскіх моваў/ словаў, якая была набліжаная да вымаўленьня мовы-крыніцы /у выпадку лаціны — да агульнаэўрапейскае традыцыі чытаньня лацінскіх словаў/. Пар.: плян, калёна, клямка, гактар, мэтар, сэкунда, імпэт... Мяккае ль і цьвёрдыя зычныя перад э — гэтыя найбольш характэрныя рысы запазычаньняў у беларускім традыцыйна-кніжным і народным вымаўленьні — былі ў 1933 г. скасаваныя і замененыя на расейскія /цьвёрдае л даволі бессыстэмнае: Голландия, але Финляндия. Рэч у тым, што ў расейскую мову шмат запазычаньняў прыйшло пісьмовым шляхам, і перадавалі іх палітарна, не зважаючы на вымаўленьне ў мове-крыніцы.

Зазнала гвалтоўныя зьмены і граматычная сыстэма мовы Купалы й Коласа. Спэцыфічна беларускае, народнае прыметнікавае скланеньне назоўнікаў на -істы /арганісты, арганістага, арганістаму.../замянілі на расейскі ўзор: арганіст,-а,-у... Сярэднебеларускія гаворкі і наогул значная частка беларускае моўнае тэрыторыі /гл. Дыялекталагічны атляс беларускае мовы/ ведаюць толькі формы у садох, у палёх, садом патрэбны дагляд, дай мужыком запаліць. Такія формы — нарматыўныя у беларускім дарэформавым друку — зьмянілі расейскія на -ах/ях/, -ам/ям/. Падобную апэрацыю зазналі канчаткі 2 асобы мн. ліку загаднага ладу дзеясловаў. Было: бярэце! нясеце! Стала: бярыце! нясіце!. Дайшло да таго, што пункт 23 новых "правілаў" рэкамэндаваў увесьці ў беларускую мову дзеепрыметнікі незалежнага стану, цэлую граматычную катэгорыю: "Увесьці ў беларускую мову дзеепрыметнікі незалежнага стану, асабліва калі яны азначаюць сацыяльны сэнс." Чужыя народнай моўнай традыцыі словы " вызначаючыйся вялікімі здольнасьцямі","калона праехаўшых машын" гвалтам сталі ўвадзіцца на старонкі пасьлярэформавых выданьняў БССР.

Сучасныя дасьледчыкі ўжо прызнаюць, што, хоць прапанаваным у 1933 г. граматычным зьменам /апроч апошняе/ можна знайсьці паралелі ўва ўсходніх гаворках, ўсё ж вырашальным трэба лічыць уплыў расейскай мовы /гл. II том "Гісторыі беларускае літаратурнае мовы" аўтарства Крамко, Юрэвіч, Яновіч/ У 1957 г. ад некаторых недарэчных палажэньняў рэформы 1933 г. адмовіліся, прыкладам: вярнулі асобнае скланеньне мужчынскім і жаначым формам лічэбніка два /двух, двум хлапцам, але дзьвюх, дзьвюм дзяўчатам/; пашырылі аканьне на "інтэрнацыянальна-рэвалюцыйныя словы" /камсамол, піянер/. Цікава, што ў Заходняй Беларусі да 1939 г. карысталіся граматыкай Тарашкевіча, а рэформу 1933 г. успрынялі рэзка адмоўна літаральна ўсе пласты беларускага грамадства. Беларусы Беласточчыны ў кнігах, выдаваных лацінкаю, і сёньня выкарыстоўваюць Тарашкевічаў правапіс і граматыку. Мова нашая маладая, яна разьвіваецца, закасьцянець не пасьпела /маю на ўвазе новую беларускую мову, што пачала як літаратурная мова фарміравацца ў к. XVIII ст./, прынамсі ў вуснах тых, хто яе любіць, і таму яшчэ ня позна вярнуцца да рэкамэндацыяў 1926 г., вядома, скарыгаваўшы іх у адпаведнасьці зь сёньняшнімі вымогамі і дапоўніўшы прапановамі грамадскасьці пасьля публічнага абмеркаваньня.

Вінцук Вячорка

---

УВАГА !!!!!!!!!!!!!!

Шаноўныя панове каапэратары! Рэдакцыя "Студэнцкае Думкі" прымае інфармацыю пра Вашую дзейнасьць для зьмяшчэньня рэклямы на старонках нашае часапісі. Даведкі па тэлефоне 34-42-78 -- Гуркоў Алесь.

жаць на тое; зарэгістравана нейкае аб'яднаньне, клюб, таварыства і г.д. у гарвыканкаме ці не. Бюракратыя выкарыстоўвае свае паўнамоцтвы, каб не прызнаваць гэтыя нефармальныя рухі і аб'яднаньні, бо яны падрываюць яе манаполію.

Не вызначаецеся Вы, тав. Маладушны, і праўдзівасьцю падачы фактычнага матар'ялу. Вы заяўляеце, што "Сьезд открыл председатель историко-просветительного общества "Мартиролог Белоруссии" З.Позняк,...". Мушу Вам нагадаць, што адкрыў Вальны Сойм адзін з дзеячоў клюба "Сябрына", стары віленчук спадар Анішчык. За йім, дарэчы, выступалі прадстаўнікі літоўскага Фонду Культуры,Літоўскага Руху за перабудову "Саюдзіс" і ўжо значна пазьней выступіў Зянон Пазьняк.

Дарэмна Вы намагаецеся прыпісаць Эдварду Жылінскаму тое, што ён не казаў. Мы з Эдвардам уважліва праслухалі запіс ягонага выступу, але гэтак і не пачулі зь ягоных вуснаў словаў: "Пока мы говорим — они /маецца на ўвазе ЦК ЛКСМБ — заўвага аўтара/ занимаются серьёзным делом. Общим для всех нас ! ". Калі Вы ўжо бярэцеся тлумачыць чужыя словы, дык варта, на маю думку,падаваць цалкам усю цытату. Дарэчы, у экалягічны клюб, якому ЦК ЛКСМБ прадставіла памяшканьне, уваходзяць сябры розных нефармальных згуртаваньняў /"Сьвітанак", "Талака" і г.д./.

"Больше всего", як Вы пішаце, Вам "не понравилось", што эканамічныя пытаньні браліся вырашаць людзі "некомпетентные". Але, на жаль, мы добра ведаем, да якога эканамічнага развалу давялі нашу краіну "кампетэнтныя людзі". Да таго ж Вы зноў уводзіце чытача ў зман. Адкуль Вам, выпадковаму чалавеку на Сойме, ведаць,ці былі на паседжаньнях эканамісты? Адкуль Вам сапраўды ведаць, што адным з дэлегатаў "Талакі" на Вальны Сойм быў Юрась Беленькі—галоўны эканаміст аднаго зь менскіх прадпрыемстваў. Далей Вы пішаце: "Возможность ознакомиться с ней /маецца на ўвазе эканамічная пляцформа — заўвага аўтара/ заранее большинству делегатов не была предоставлена". Я разумею,што Вам не была прапанавана гэткая магчымасьць, але гэта і не ўваходзіла ў нашыя пляны. А што да "большинства делегатов", дык больш як за чатыры месяцы да Сойму ўсім беларускім суполкам былі дасланыя праекты праграмных дакументаў, у тым ліку і па эканоміцы. Суполцы "Сьвітанак", дарэчы, пасьля аднаго з паседжаньняў-абмеркаваньняў гэтых праектаў,парткам забараніў зьбірацца ў інстытуце. І каб падмацаваць несур'ёзнасьць усякае эканамічнае праграмы Беларускага Маладзёжнага руху, Вы падаеце шэраг нібыта яскравых прыкладаў таму: "...выпустить /падкрэслены аўтарам/ свою денежную единицу, учредив свой Государственный банк. Прозвучала мысль о ненужности крупных промышленных предприятий...", але гэтым самым Вы ня менш яскрава паказалі сваю непісьменнасьць у гэтых пытаньнях. Напрыклад, для Вас няма розніцы паміж выпусьціць і мець права на выпуск казначэйскіх білетаў, калі ёсьць на тое патрэба, а ў праграмных дакумэнтах Сойму запісана менавіта апошняе. Калі Вам падаецца дзіўнай думка пра непатрэбнасьць буйных прамысловых прадпрыемстваў, дык трэба ставіць не шматкроп'е, а працягваць далей — прадпрыемстваў, якія працуюць на прывазной сыравіне, як БелАЗ, які спажывае прывазны метал і выробляе машыны, абсалютна не патрэбныя самой Беларусі.

Ня менш сьмешнымі падаюцца Вашыя заявы, што нібыта манаполія на стварэньне студэнцкага саюза належыць ЦК ЛКСМБ. А як быць са студэнтамі-некамсамольцамі? Вы пішаце: "...мы, вузовские комсомольские сетретари, уже не один месяц дискутируем вопрос, каким ему быть". Што ж, дыскутуйце "вузовские секретари", але няўжо звычайны, шараговы/радавы/ студэнт ня можа спрычыніцца да гэтае працы?

Цалкам зразумелае Вашае жаданьне не прызнаваць раўнапраўных юрыдычных правоў камсамола ды разнастайных нефармальных згуртаваньняў, нібыта ўся справа ў іх колькасьці. Вы няўпэўненыя ў аўтарытэце камсамолу і таму пахапліва абараняеце яго манаполію на вузаўскую моладзь? Было б, прынамсі, сьмешна, каб "вялікі" СССР у Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў запатрабаваў для сябе нейкіх асаблівых прывілеяў у вырашэньні пытаньняў у параўнаньні, напрыклад, з "маленькім" Сінгапурам. Да таго ж Вы самі сабе супярэчыце: "... и "Сьвітанак", который состоит из 8 активных членов,.. ...но никто не видел ни устава неформального объединения, ни списка его членов." Прызнайцеся, як бы хацелася парткаму завалодаць гэтым спісам усіх сяброў ды прыхільнікаў, каб неадкладна разгарнуць буйнамасштабныя рэпрэсіі. Наконт статута, які нібыта ніхто ня бачыў, зноў, мякка кажучы, Вы маніце, прынамсі, Вы ніколі не зьвярталіся з просьбаю даць пачытаць яго. Сябры "Сьвітанку" яшчэ летась вялі шматтуравыя

дэбаты з рэдакцыяй "Тэхнолага" каб мець у інстытуцкай газеце сталую старонку, дзе зьмяшчаць матар'ялы пра дзейнасьць суполкі. Была сабраная не адна сотня подпісаў студэнтаў пад лістом у парткам, але адказу так і не дачакаліся.

Зусім дзіўна гучаць Вашыя абвінавачваньні ў тым, што мы нібыта адмовіліся рыхтаваць вечарыну, "посвящённую развитию белорусской культуры". Раім шаноўным чытачам зьвярнуцца да першага нумара "Студэнцкае думкі" альбо падыйсьці да сакратара парткаму тав. Сімановіча. Мяркуем, нават ён ня эманіць, што правядзеньне цалкам ужо падрыхтаванай вечарыны было забаронена ягоным загадам.

Напрыканцы колькі словаў нашаму канкурэнту і сабрату па пяру газэце "Технолог". Можа, ня варта зьмяшчаць у вашай шматтыражцы гэтакія сырыя матар'ялы? Друкуючы іх, вы даяце канкурэнтам /"Студэнцкай думцы"/ добры крытычны матар'ял, які кампраметуе Вашае выданьне. Гэтакія публіцыстычныя перлы аніяк не падвысяць накладу /тыражу/ "Технолога".

Шчыра зычлівыя Алесь Гурко\u045e ды Алесь Марозік.

# НАМ ПІШУЦЬ

"Я прапаную патрабаваць для студэнтаў права на вольнае разьмеркаваньне. Адміністрацыя павінна толькі раз на паўгады прадастаўляць сьпіс вакансыяў на спэцыяльнасьці. Гэта дазволіць калектывам падбіраць спэцыялістаў, студэнтаў прымусіць набываць неабходныя веды, а выкладчыкаў пазбавіць ад "адміністрацыйных чыннасьцяў."

Іваноў А.А., студэнт Менскага Дзяржаўна педагагічнага Інстытуту.

## УВАГА!

Атрымаўшы гэты ліст рэдакцыя ўзгадала, што неўзабаве пачнуцца студэнцкія разьмеркаваньні. Зноў, відаць, шмат у якіх навучальных установах для студэнтаў - карэнных жыхароў Беларусі будуць прапанаваныя мейсцы працы па-за межамі Беларусі. Заклікаем усіх, каго напаткае гэткі лёс, рашуча адмаўляцца ад прапанаванага мейсца. Першым крокам тут будзе адмаўленьне паставіць свой подпіс пад размеркаваньнем. На нашую думку гэтая акцыя павінна атрымаць рэспубліканскае гучаньне. Грамадзяне Беларусі павінны мець гарантаванае мейсца працы на сваёй Радзіме!

# ВЕСТКІ З-ЗА МЯЖЫ

"Дзень добры, сябры са "Студэнцкае Думкі"!

Гэты ліст мы дасылаем Вам з Эстоніі. Буду пісаць у множным ліку, бо нас ужо чацьвёра. У будучыні, можа, пашырым наш гурт, а лепей ужо сказаць - суполку.

Згуртаваліся мы зусім нядаўна. Але ва ўсіх нас ёсьць пачуцьцё нашай Бацькаўшчыны. Мы неабыякава ставімся да пытаньняў адраджэньня Беларусі, нашай роднай краіны. Прабачце, забыўся паведаміць, хто мы такія. Мы навучэнцы Тартускага Унівэрсытэту, мэдычнага факультэту. І хаця цяпер далёка ад Беларусі, але ўважліва сочым за падзеямі, што адбываюцца у нашым Краі. Хаця ня вельмі часта, але атрымліваем сякі-такі матар"ял з дому. Прыклад на раз на тыдзень зьбіраемся разам, каб пагаманіць на розныя пытаньні. Вось цяпер перад мною Ваша "Студэнцкая Думка" /3-я публікатка/, толькі нядаўна атрымаў. Я хацеў запытаць у Вас, сябры, ці можаце Вы дасылаць нам хаця зрэдку публікаткі свайй суполкі. Калі ёсьць гэткая магчымасьць, то мы будзем вельмі удзячныя.

Таксама мы заявілі сябе ў арганізацыйны камітэт БНФ "Адраджэньне". Выступаем у яго падтрымку! Есьць намер наладзіць кантакт зь беларускім культурным таварыствам у Таліне. Але ўсё ж хочам ведаць, як жыве наш брат-студэнт на Беларусі.
Калі Вас нешта зацікавіць у Тарту, альбо трэба будзе дапамога, альбо падтрымка ці яшчэ нешта — гукніце, прыяжджайце:

Эстонія 202400, м. Тарту,
вул. Ноорузэ, 7 - 425
Віктар Здановіч

Жадаем посьпехаў у добрай справе!

22.03.89 м.Тарту."

Ад рэдакцыі: З нагоды гэтага ліста рэдакцыя "Студэнцкае Думкі" вырашыла закласьці падмурак сталае рубрыкі "Вэсткі з-за мяжы". Рэдакцыйная суполка зьвяртаецца да ўсіх студэнтаў-беларусаў, што жывуць ды вучацца за цяперашнімі дзяржаўнымі межамі БССР /ці то на сваёй спракавечнай этнічнай тэрыторыі, як Беласточчына, Віленшчына, Дзьвіншчына /цяпер Даўгоўпілс з ваколіцамі/, Браншчына, Смаленшчына, Чарнігаўшчына, ці то на эміграцыі, як у Польшчы, Ангельшчыне, Амэрыца, Эстоніі, Латвіі, Літве, Расеі, Украіне, Нямеччыне і г.д./ са шчырай просьбай дасылаць матар"ялы пра сваё студэнцкае жыцьцё, грамадзкую, культурную ды іншую дзейнасьць. Загадзя сардэчна зычлівыя Вам.

## СЬПЯШАЙЦЕСЯ

Нагадваем усім чытачом "Студэнцкае Думкі", што чатыры месяцы таму студэнцкая суполка "Сьвітанак" распачала збор кніг /разнастайных тэмаў, у тым ліку падручнікі/ для Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім, што на Беласточчыне /Польшча/. Шырокія колы грамадзкасьці адгукнуліся на зьмешчаны ў першым нумары часапісі заклік. На пачатак красавіка рэдакцыя атрымала ўжо больш за 500 асобнікаў разнастайных кніжак. Рэдакцыя ад імя нашых суайчыньнікаў зь Беласточчыны кажа шчыры дзякуй усім ахвяравальнікам, асабліва:
пані Мацюш Еўдакіі, выкладчыцы беларускай мовы й літаратуры 137 сярэдняй школы м. Менску;
пану Хланю Аркадзю, інжынеру Менскай фабрыкі імя Арджанікідзе;
спадару Цярохіну Уладзімеру, інжынэру Цэнтральнай наладачнай управы "Прамсувязьэнэргаладка";
спадару Саўко Яну, інжынэру фабрыкі імя Арджанікідзе;
спадарам Вячоркам Арыне і Вінцуку, выкладчыкам матэматыкі і беларускае мовы.

Паведамляем, што збор кніжак будзе доўжыцца яшчэ пару месяцаў. Просім дасылаць ці перадаваць іх на адрас рэдакцыі. Падаем таксама менскі тэлефон Юрася Траяновіча /61-15-89/, зь якім можна дамовіцца пра сустрэчу дый непасрэдна перадаць кнігі.

## ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ

Рэдакцыя ўдзячная за фінансавую падтрымку і шчыра дзякуе першым ахвяравальнікам:
спадару Каўку Аляксею, рэдактару маскоўскае часапісі "Советское славяноведение" і старшыні Маскоўскага Таварыства Беларскае культуры імя Францішка Скарыны;
спадару Селяху Альгерду, паляўчазнаўцу Браслаўскае паляўнічае гаспадаркі;
спадару Пашкевічу Васілю, навуковаму супрацоўніку Інстытута гідралёгіі й гэахэміі АН Беларусі;
спадару Белакозу Алесю, школьнаму выкладчыку беларускае мовы й літаратуры ў вёсцы Гудзевічы;

пану Сысу Анатолю, паэту.
Хочучы падкрэсліць нашую асаблівую ўдзячнасьць Анатолю, як нашаму даўняму ды шчодраму мэцэнату, мы зьмяшчаем сёньня верш-водгук на ягоную кніжку "Агмень", што выйшла летась у бібліятэчцы часапіса "Маладосьць".

"ТУТЭЙШЫ"

АУТАРУ "АГМЕНЯ"

Вершы жывыя, што струны: сьпяваюць, і клічуць, і журацца,
Хвалямі коцяцца рытмы празрыстых
нязмушаных гамаў.
Кніжка твая — выспа Шчырасьці ў моры
бяздушлівых хамаў,
Душы скалелыя да агменю твайго туляцца.
Мулкая лямка твая — як вол, тузаеш,
Цягнучы воз немалы, шчэ мо" й больш
за іншыя,
А шкадаваньне, спагада, падзяка табе
будуць лішнія,
Як толькі — мо Бог ня дасьць — ты зьнядужаеш.
Раз ужо ўпрэгся — цягні, не губляй адно сілаў ды шчырасьці,
Шчасьця ўжо не шукай сабе
лепшага, йнакшага:
Даць нейкі ход, зварухнуць твань балота стаячага
Дадзена толькі паэце Вялікай а Божае міласьці.

# АД РЭДАКЦЫІ

Шаноўны чытач, сёньня ты трымаеш у руках чарговы нумар нашае часопісі, нашую "Думку" — гэта ёсьць ня толькі нашая заслуга, але і пэўне-ж заслуга тых грамадзянаў, якія не паскупіліся ахвяраваць на выдавецкі фонд "Студэнцкае Думкі" крыху грошаў. Хай жа дзякуй шчырае ім будзе за гэта.
Але прымаючы пад увагу ўсё ж тыя фінансавыя цяжкасьці, мы просім і надалей усіх тых, каму дарагая родная адраджэнская справа, усіх тых, каму зразумелыя патрэбы яе, прыйсьці нам на помач цераз сталыя ахвяраваньні.
Сабекошт аднаго нумара нашае часопісі 30 капеек. Рэдакцыя мяркуе выдаваць каля 15 нумароў штогод. Перасылка каштуе для нас 6 капеек.
Наш разьліковы рахунак: 164901 ПЕРШАМАЙСКІ ЖЫЛСАЦБАНК , АСАБІСТЫ РАХУНАК 11736, АШЧАДНАЯ КАСА № 7459 / 0271 ТРАЯНОВІЧ ЮРЫ ЭРНЭСТАВІЧ /.
Паведамленьні пра зробленыя ахвяраваньні, а таксама замаўленьні пра неабходную колькасьць нумароў для перасылкі просім дасылаць на адрас адказнага распаўсюджвальніка: БЕЛАРУСЬ, МЕНСК,220018, ВУЛ. АДЗІНЦОВА, Д. 22, КВ. 113,КОРПУС 1, ЦЯМРУК АЛЕСЯ.




Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх студэнтаў, выкладчыкаў ды іншых зацікаўленых асобаў з просьбаю дасылаць матар"ялы характару культурна-грамадзкага, палітычнага, эканамічнага, навуковага, літаратурна-мастацкага, гумарыстычнага, сатырычнага, абвесткі.

Наш адрас: Беларусь, 220100, места Менск, вул. М.Горкага, д. 143, кв. 65
Гуркову Алесю. Тэл. 34-42-78 - хатні.

Нумар падрыхтавалі: Аніськова Галіна, Барвенава Ганна, Кавальчук Алена, Алесь Гуркоў, Аляксей Рагуля й іншыя.